НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

Дэпутацкая трыбуна

# Примите предложения промышленников — и экономика республики оживет

**Евгений СЕЛИВОНЧИК,**
**заместитель генерального директора БелавтоМАЗа, народный депутат Республики Беларусь**

Острейший вопрос — выход из экономического кризиса. При этом предприятий, поставляющих продукцию по клирингу в Россию, которые оказались в сложнейших условиях. Министерство ресурсов закупает у них продукцию по декларированным ценам и оплачивает ее белорусскими безналичными рублями. В свою очередь Департамент цен декларирует цены на клиринговую продукцию без учета курса белорусского безналичного рубля к российскому, установленного Национальным банком. Кроме того, Минресурсов в настоящее время за поставленную продукцию практически не рассчитывается либо оплачивает долги с большим опозданием. Минэнерго и Мингаз по-прежнему требуют оплату только российскими рублями или валютой, что ведет к срыву поставок продукции по клирингу и, в конечном счете, прекращению поставок энергоносителей в республику.

И еще. Несмотря на то, что республика нуждается в валюте, с экспортной валютной выручки взимается налог в размере 10 процентов, 20 процентов подлежит обязательной продаже на Межбанковской валютной бирже. В итоге из-за неразумных налоговых ставок экспорт становится убыточным, а это губительно для экономики.

Белорусские деньги выпущены как расчетные билеты и не являются валютой суверенного государства. Устанавливаемые курсы расчетного билета к валюте Российской Федерации рублю и доллару США нереальны и уже приводят к гиперинфляции, неконкурентоспособности товаров, производящихся в Республике Беларусь, на рынках России и зарубежных стран по их ценовой стоимости. Высокая учетная ставка по кредитам, введенная Национальным банком, практически свела к минимуму кредитование производителей. Производители по-прежнему платят высокие налоговые пошлины на поставляемые из России материалы и комплектующие, что делает нашу продукцию неконкурентоспособной по цене, а таможенные барьеры усложняют ситуацию. Практически отсутствуют взаиморасчеты почти со всеми республиками СНГ. В начале следующего, 1994 года, производители опять могут оказаться без лицензий, квот на получаемые сырье и материалы. С целью выхода из создавшегося тяжелого экономического положения, на мой взгляд, необходимо срочное решение следующих проблем. Первая и, пожалуй, самая главная — нужно определить кредитно-денежную и финансовую политику республики, учитывая отсутствие собственных энергоресурсов, сырья и сложившуюся структуру производства. Это значит — необходимо четко определить наши взаимоотношения с Россией. Без этого невозможно решить все остальные вопросы жизнедеятельности Республики Беларусь как государства.

Нужно срочно определить единую наличную и безналичную валюту платежа и ее отношение к валютам других государств. Для оживления сферы производства следует установить учетную ставку Национального банка для кредитов, направленных на развитие производства и формирование оборотных средств производителей на уровне 50—100 процентов, на проведение коммерческих операций, не связанных с производством, — на уровне 200—250 процентов.

Учитывая дефицит энергоресурсов и покупку их в России, оплату за них, я считаю, нужно производить денежными средствами, а не на условиях поставки товаров по клирингу, так как это приводит к неравной торговле. Цены на энергоносители почти мировые, а на поставляемые товары в 2—3 раза ниже фактически действующих в России, что приводит практически к банкротству предприятий, поставляющих продукцию по клирингу.

Для создания резерва платежей важно установить отчисления от выручки предприятий всех форм собственности (включая коммерческие) в единой валюте. Размер их должен быть определен в процентном отношении от товарооборота всех предприятий. Приобретение российской валюты для отчислений в республиканский резерв платежей производится по курсу Национального банка. Необходимо отменить декларирование цен на ограничение рентабельности, так как цена диктуется рынком. В условиях декларирования прибыль через наличные деньги, валюту (учитывая нереальность курсов доллара в России и Беларуси) оседает в коммерческих непроизводственных структурах, не облагается налогом и не попадает в бюджет.

Я предлагаю создать условия и легализовать все счета в банках других государств, не препятствовать открытию счетов производителями, установив обязательную отчетность о движении средств по этим счетам и суммы обязательных платежей в нашей республике; отменить обязательную продажу 20 процентов валютной выручки на Межбанковской валютной бирже. Нужно принять меры, стимулирующие поставку продукции на экспорт. Отменить все налоги на экспорт. Верховному Совету и правительству следует принять предложения Белорусской научно-промышленной ассоциации по изменению налогового законодательства, стимулирующие производство товаров.

Время идет, а потому нужно срочно договориться с правительством России о беспрепятственном оформлении лицензий, квот на получение материалов, комплектующих начиная с 1 января 1994 года.

Есть еще один блок вопросов, без решения которых трудно выйти из кризиса. Это — социальная поддержка трудящихся, закрепление кадров в сфере производства. В интересах дела следует не относить к доходам и не облагать подоходным налогом стоимость выделенных за счет средств предприятий путевок на лечение и отдых работникам, пенсионерам и членам их семей, расходы на поддержку многодетных семей. Материальную помощь, погашение процентов по кредиту, выданному работникам на строительство жилья, не облагать подоходным налогом (или облагать по ставке до 10 процентов дифференцированно, в зависимости от суммы).

Пользуясь трибуной "Народной газеты", хотел бы сказать еще вот о чем. Для обеспечения республики энергией, полагаю, нужно срочно разработать ближайшую и перспективную программы ввода в эксплуатацию ТЭЦ с использованием твердого топлива и мазута, а также строительства атомных электростанций с использованием небольших, экологически чистых и безопасных энергоблоков, производимых в России на базе конверсионных программ.

Необходимы срочное принятие и реализация законов и постановлений о защите прав производителей. Исключение права реэкспорта продукции, выпускаемой предприятиями Республики Беларусь, коммерческими структурами без ведома производителей, включая Россию и другие страны СНГ.

Чтобы исключить свертывание производства, нужно ввести оптимальные налоги на ввоз товаров, аналогичных выпускаемым предприятиями Республики Беларусь.

Для выработки четких тактической и стратегической программ выхода из тяжелого экономического состояния, я считаю, нужно создать постоянно действующий мозговой центр с участием членов правительства, депутатов Верховного Совета, ведущих экономистов и ученых, руководителей предприятий и ассоциаций, аграрников и предпринимателей. И, конечно же, обеспечить резкое сокращение управленческих структур в системе правительства.

Вот такие мысли одолевают меня, когда задумываюсь о той сложнейшей ситуации, в которой оказалась родная Беларусь. Скорей бы выбраться из тупика...

# Без свабоднай прэсы не будзе вольнай Беларусі

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**народны дэпутат Рэспублікі Беларусь**

Здаецца, ніводны палітык не асмеліцца аспрэчваць тое, што свабода слова — аснова і гарант усіх астатніх грамадзянскіх правоў. Сродкі масавай інфармацыі, ці, як іх яшчэ называюць, чацвёртая ўлада — не толькі крыніца інфармавання, але яшчэ і магчымасць кантролю насельніцтва за дзейнасцю трох астатніх улад — заканадаўчай, выканаўчай і судовай. У дэмакратычным грамадстве сама дзяржава зацікаўлена ў тым, каб прэса была свабоднай — бо толькі такая прэса можа спрыяць усталяванню збалансаваных узаемаадносін паміж грамадствам і той жа дзяржавай.

Але гэта — у дэмакратычным грамадстве.

Чытачы, журналісты, прадстаўнікі палітычных рухаў з трывогай гавораць пра крытычную, небяспечную сітуацыю ў сродках масавай інфармацыі краіны. Гэтай тэме была прысвечана і Заява парламенцкай апазіцыі БНФ, надрукаваная ў "Народнай газеце" на пачатку верасня. Каментарыі, якія з'явіліся ў прэсе, вымушаюць яшчэ раз — больш падрабязна — спыніцца на праблеме.

Першым адгукнуўся начальнік аддзела друку Саўміна сп.Паваляеў; дзяржаўны чыноўнік надрукаваў свой адказ не на дзяржаўнай мове, раз-пораз беручы ў зневажальнае двукоссе беларускія словы. Зрэшты, наконт наростаў над прэсай у выглядзе саўмінаўскіх аддзелаў і ўпраўленняў адназначна выказалася Камісія Вярхоўнага Савета, таму спыняцца на іх не буду.

Куды больш цікавымі ўяўляюцца некаторыя каментарыі, зробленыя калегамі-журналістамі. Найбольшыя папрокі выклікалі кадравыя прапановы, выказаныя ў Заяве, — маўляў, апазіцыя дзейнічае ў лепшых традыцыях ЦК, калі меркаванні калектываў не ўлічваліся. Навошта такі шум, калегі? Вы ж цудоўна ведаеце, што апазіцыя мае такі ж уплыў на вырашэнне кадравых пытанняў, як і вашыя калектывы. Прынамсі, ніводнае рашэнне рэдакцыйных калектываў не можа ўступіць у сілу без узгаднення з Саветам Міністраў, бо менавіта ўрад размяркоўвае фінансы, памяшканні, паперу і г.д. Але нешта не бачна — публічных, на старонках вашых выданняў! — пратэстаў з гэтай нагоды. Для супрацоўнікаў радыё было поўнай нечаканасцю прызначэнне новага шэфа, зрэшты, як і для адпаведнай Камісіі Вярхоўнага Савета. І вы, шаноўныя калегі з саўмінаўскіх выданняў, прамаўчалі. Відаць, небяспечна аспрэчваць дзеянні гаспадароў.

Затое якая асалода яшчэ і яшчэ раз папракнуць апазіцыю тым, што яна выказала кадравыя прапановы ў дачыненні да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі!

Разумею — тэрмін "дзяржаўныя" абразлівы для супрацоўнікаў некаторых выданняў. Асабліва тых, хто прызвычаіўся зневажаць дзяржаўную мову, дзяржаўныя сімвалы ды і саму гэтую дзяржаву як незалежную краіну. Але, шаноўныя калегі, вы атрымліваеце з дзяржаўнага бюджэту дзесяткі (некаторыя — нават сотні) мільёнаў рублёў. Вы, у адрозненне ад большасці незалежных выданняў, не маеце праблем з памяшканнямі нават для камерцыйных крам пры рэдакцыях. Калектывы "Свабоды", віцебскага "Выбару", магілёўскай "Ратушы" ці гродзенскай "Пагоні", якіх вы пры нагодзе папракаеце малатыражнасцю, не могуць разлічваць і на сотую долю таго, што даў вам Саўмін. Вы цудоўна ўладкаваліся, калегі, але, калі ласка, не кажыце пра сваю незалежнасць і не кідайце здзеклівых папрокаў у бок тых, хто асмельваецца друкаваць адхіленыя вашымі рэдактарамі артыкулы.

Мы ж прапанавалі якраз тых людзей, якія здольныя, на нашу думку, супрацьстаяць ідэалагічнаму ціску на сродкі масавай інфармацыі. Няпраўда, што мы імкнёмся "працягнуць на пасады прыхільнікаў БНФ" (што, дарэчы, было б зусім нармальна — пакажыце мне партыю, якая не імкнецца да ўплыву на СМІ). З трох названых асоб ніводная не з'ўлялася і не з'ўляецца членам БНФ; двое з іх — былыя члены ЦК КПБ і ўрада.

Малады журналіст з маладзёжнай газеты непакоіцца — якім гэта чынам апазіцыя збіраецца бараніць дзяцей і падлеткаў ад прааў маральнага насілля і маральнай разбэшчанасці? Не хвалюйцеся, калега, — вашае святое права назіраць за некаторымі пікантнымі асаблівасцямі ўзаемаадносін палоў застанецца пры вас. Не здзіўлюся, калі раптам ля Камароўкі нават з'явіцца нешта падобнае на парыжскі Сен-Дэні для поўнага, так бы мовіць, задавальнення асабліва выкшталчоных патрабаванняў. Але ні ў Парыжы, ні ў якім іншым горадзе цывілізаванага свету дзеці не пабачаць па стацыянарным тэлебачанні таго, што паказваюць па нашым — закон за гэтым сочыць прыдзірліва. Такі закон павінен дзейнічаць і ў нас — вы так не лічыце?

Сустаршыня адной палітычнай арганізацыі заўважыла ў Заяве пагрозу яшчэ больш страшную — нацыянальнага ціску на прэсу. Але няўжо паважаная спадарыня ўбачыла такую небяспеку ў сцвярджэнні, што інтэграцыя краіны ў сусветную інфармацыйную прастору і працэс нацыянальнага адраджэння не супярэчаць, а, наадварот, спрыяюць адно аднаму? Ці, можа, у прызнанні прыярытэтнага развіцця беларускамоўных сродкаў інфармацыі? Але гэта прадугледжвае і шэраг ужо прынятых заканадаўчых актаў. Ды і няёмка даводзіць, што безумоўнае выкананне Дэкларацыі правоў чалавека ў такой дэмакратычнай краіне, як тая ж Францыя, сумяшчаецца з сістэмай дзяржаўнага спрыяння нацыянальнай культуры. Мы, між іншым, прапануем на пэўны тэрмін вызваліць усе, а не толькі беларускамоўныя выданні ад усіх відаў падаткаў.

Вось, дарэчы, красамоўная акалічнасць: шальмуючы апазіцыю за міфічны "кадравы" і "нацыяналістычны" ціск, ніхто з каментатараў не пажадаў і словам абмовіцца пра тыя прапановы, якія выказалі дэпутаты. Большасць з іх, дарэчы, заяўлена і ў лютаўскім звароце Сойму БНФ, на што, канечне, афіцыйныя выданні не звярнулі ўвагі.

Тры разы апазіцыя выносіла на сесіі парламента праект пастановы аб дэманапалізацыі сродкаў масавай інфармацыі. Летась увосень давялося абмяркоўваць яе з рэдактарамі ледзь не ўсіх цэнтральных выданняў — ніхто не быў супраць у прынцыпе, але і асаблівага імпэту ніхто не выказаў: свабода палохала невядомасцю.

Але ўдумайцеся яшчэ раз у тое, што прапануецца.

Ураду забараняецца выступаць у ролі заснавальніка больш чым аднаго перыядычнага выдання. Газетам і часопісам, якія цяпер фінансуюцца Саўмінам, на працягу года гарантуецца забеспячэнне з бюджэту ў памерах, неабходных для падтрымання тыражу на ўзроўні падпіскі. А дзе гарантыі? — пытаюцца рэдактары. Гарантыі ў тым, што пастанова прымаецца Вярхоўным Саветам і мае сілу закону; цяперашняе ж размеркаванне сродкаў ажыццяўляецца фактычна з тых жа самых бюджэтных рэсурсаў, але па прынцыпу "хто бліжэй, той даражэй". Бліжэй, натуральна, той, хто хваліць.

Наступны крок — вывядзенне Беларускага Дома друку з падпарадкавання гаспадарчаму ўпраўленню Савета Міністраў і перадача яго пад юрысдыкцыю Міністэрства інфармацыі. Кіраўніцтва гаспадарчага ўпраўлення шмат зрабіла для пераабсталявання выдавецтва, але знаходзіцца яно ўсё ж павінна ў руках прафесіяналаў.

Нарэшце — акцыяніраванне выданняў. Вопыт краін Усходняй Еўропы, а цяпер і Прыбалтыкі паказвае, што падчас гэтага працэсу ва ўзаемадзеянне ўступаюць розныя, часам супярэчлівыя інтарэсы. У нас ужо цяпер з'явіліся асобы, здольныя прафінансаваць шматтыражныя выданні, і разам з тым павінны ўлічвацца інтарэсы працоўных калектываў рэдакцый. Нельга забывацца і на тое, што доля працы шмат якіх пакаленняў журналістаў ёсць і ў паліграфічным комплексе таго ж самага Дома друку.

Пра падаткі ўжо ўзгадвалася. Хіба гэта нармальна, што журналісты павінны выплачваць такую іх суму, як і гандляр з камерцыйнага кіёска і што для маладога, але ўжо добра вядомага агенцтва БелаПАН набыццё прыстойнай тэхнікі — недасягальная мара? Разумею, што скасаванне падаткаў — надзвычайны крок, але і сітуацыя надзвычайная, таму Вярхоўны Савет абавязаны пайсці на гэта.

Цяжка паверыць, што, атрымаўшы свабоду і магчымасць распараджацца маёмасцю, газеты і часопісы не здолеюць знайсці сваё месца ў нашым пакуль яшчэ не надта насычаным інфармацыйным рынку. Думаецца, што ў такой праграме дэманапалізацыі прэсы павінны быць зацікаўлены найперш самі выданні, бо раптоўнае скарачэнне звыклых датацый можа адкінуць іх за мяжу выжывання.

Мы бачым, што манапалізацыя прэсы Саўмінам, які фактычна выступае ў ролі асобнай палітычнай сілы, прывяла да таго, што інтэлектуальны патэнцыял большасці дэмакратычных партый не запатрабаваны грамадствам. І Шушкевіч, і Кебіч любяць паразважаць пра плюралізм (апошні, праўда, менш), але ні адзін, ні другі і пальцам не паварухнуў дзеля таго, каб плюралізм гэты замацаваўся на тэлеэкранах і радыёхвалях. Відаць, для абодвух такое становішча вельмі выгаднае — з'яўляецца больш магчымасцей, для спаборніцтва паміж сабою за лідэрства на тэлеэкране. А потым можна сцвярджаць, што большая частка насельніцтва пра партыі нічога не ведае.

Мэтазгодна было б заканадаўча замацаваць права палітычных партый і рухаў на эфірны час на дзяржаўным радыё і тэлебачанні. Спрэчныя пытанні мог бы рэгуляваць савет назіральнікаў (такія створаны ў некаторых краінах Еўропы), у які партыі і рухі вылучылі б сваіх прадстаўнікоў. Зразумела, такога права павінны быць пазбаўлены арганізацыі, што выступаюць супраць незалежнасці краіны.

І яшчэ адзін аспект, які тычыцца не толькі нашых унутраных праблем. Нядаўна перагледзеў свой артыкул, надрукаваны два гады назад у "Народнай газеце" і прысвечаны інфармацыйнай блакадзе вакол Беларусі, і пераканаўся — не змянілася нічога. Хіба толькі стала зразумела — у тым, што вакол краіны існуе інфармацыйны вакуум, трэба вінаваціць найперш тых, хто ажыццяўляе інфармацыйную палітыку на Беларусі.

Прайшло два гады пасля абвяшчэння незалежнасці — але нацыянальная тэлерадыёкампанія не павялічыла колькасці тэлевізійных каналаў. Яна да гэтага часу не мае ніводнага пастаяннага карэспандэнцкага пункта за межамі СНД (хоць да Варшавы бліжэй, чым да Масквы). Вы не знойдзеце ў мінскіх ці віцебскіх кіёсках — ні па якіх цэнах — сусветна вядомых газет і часопісаў, затое газета "Правда" зусім яшчэ нядаўна прымалася па тэлеграфу і друкавалася, а Мінсувязі даносіла хасбулатаўскае слова да паштовай скрынкі ў самай аддаленай вёсачцы. Нашай краінай цікавяцца ў свеце, ледзь не штодня ў Мінск наведваюцца замежныя карэспандэнты — але да гэтага часу не распрацаваны і не зацверджаны парадак акрэдытацыі нават пастаянных замежных карэспандэнтаў.

Прыклады дэфармаваных стасункаў са светам можна доўжыць бясконца. Яны — вынік таталітарных стэрэатыпаў, якія трывала замацаваліся ў грамадстве.

Парушыць іх можа толькі свабодны ўзаемаабмен інфармацыяй, але дзеля гэтага і сама прэса павінна быць вольнай.

*Пункт гледжання*

# ТРЭЦІ ШЛЯХ

Да апошняга часу развіццё падзей у Маскве мела вострую практычны інтарэс з прычыны іх цеснай знітаванасці з палітычнай сітуацыяй у Беларусі. Вярхоўны Савет Расійскай Федэрацыі моцна ўплываў на лінію паводзін нашага парламента, але галоўным чынам усе гэтыя два гады ён трымаў адчыненымі дзверы для вар'яцкай ідэі адраджэння СССР, што падмацоўвала палітычныя пазіцыі беларускай наменклатуры. Прэзідэнт Б.Ельцын у апошні час пераканаўча дэманструе слушнасць старадаўняй мудрасці пра тое, што нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку. Вал дэкрэтаў, энергічнае разгортванне выбарчай кампаніі, паскарэнне працэсу раздзяржаўлення маёмасці — усё паказвае на цвёрдую рашучасць прэзідэнцкай каманды канчаткова ліквідаваць структуры камуністычнай сістэмы.

Гэта робіць падзеі ў Маскве малацікавымі для нас з пункту гледжання аналогій.

Але гэта ж робіць іх і вельмі цікавымі, паколькі міжволі выдае Беларусь незалежнаю дзяржаваю. Другі раз за апошнія гады ўрад і Вярхоўны Савет Беларусі апынуліся ў стане (самі таго не жадаючы), калі лёс нашай краіны залежыць толькі ад іх. Аднак, мне здаецца, яны яшчэ не зразумелі гэтага. Зноў мы стаім на раздарожжы: альбо цяжкае змаганне за незалежнасць, альбо поўная здача, праход пад ігам і ліквідацыя самастойнасці, а ў перспектыве і нацыянальнай адметнасці. Tercium non datur — трэцяга не дадзена.

Як гэта не дзіўна, але цяпер уваход у склад Расійскай Федэрацыі не можа задаволіць беларускіх ліберал-камуністаў. Яны не могуць не разумець, што гэты шлях вымагае неадкладнага знішчэння сістэмы Саветаў, датэрміновых выбараў з удзелам дэмакратычных партый і датэрміновага адмаўлення ад улады, якой яны непадзельна валодаюць. Ён вымагае даць свабоду сродкам масавай інфармацыі і ўключэння ў канкурэнтную барацьбу з больш моцнымі і спрытнымі расійскімі прадпрымальнікамі, якія ж, вядома, не абыдуць увагаю непадзеленыя яшчэ багацці Беларусі. Для ліберал-камуністаў дачасна адмовіцца і ад улады, і ад магчымасці ўзбагачэння, калі іх да гэтага не вымушае ўнутраная сітуацыя, — шлях непрымальны.

Таксама непрымальны для іх і шлях умацавання незалежнасці Беларусі. У адрозненне ад Казахстана і Узбекістана з наменклатурнымі ўрадамі, як і ў Беларусі, нашы ліберал-камуністы не маюць такой апоры ў народзе, якую маюць Н.Назарбаеў і І.Карымаў. Гэта замінае В.Кебічу ўвесці нацыянальную валюту, расчыніць дзверы Беларусі на Захад і паспрачацца з Масквой за беларускую долю ў агульнасаюзнай маёмасці. Бо, згубіўшы нават ненадзейную і вельмі дарагую знешнюю падтрымку, ён апынецца сам-насам з тым народам, які,

зразумела, не даруе пасля стольких закалыхваючых слоў раптоўнага пераходу да рэжыму жорсткай эканоміі і непазбежных у такіх умовах кардынальных гаспадарчых рэформ. Такі паварот абавязкова справакуе нападкі на яго з боку сяброў камуністаў-інтэрнацыяналістаў, што наўрад ці ў ягоных вачах можа быць кампенсавана магчымай падтрымкай гэтага курсу з боку дэмакратычных сіл. Дарэчы, такая падтрымка малаверагодная, паколькі сп. Кебіч не захоча адмовіцца ад пасады Старшыні ўрада і даць свабоду сродкам масавай інфармацыі.

Таму, на мой погляд, урад і кантралюемая ім большасць Вярхоўнага Савета будуць шукаць трэці шлях. Шлях, якога не існуе ў прыродзе, але існуе спакуса яго знайсці. Яго падказваюць падзеі ў Маскве. Відавочна, што пасля снежаньскіх выбараў ля ўлады ў Расіі застануцца "дзяржаўнікі". Сярод партый, што атрымалі дазвол для ўдзелу ў выбарах, няма ніводнай, якая б адмаўляла імперскую палітыку. А імперскія "дзяржаўнікі" ў Расіі добра разумеюць геапалітычную каштоўнасць Беларусі. І пастараюцца любымі сродкамі ўтрымаць яе ў залежнасці ад Расіі. Ім патрэбна беларуская мяжа з Польшчай, ім патрэбны беларускія чыгункі, нафта- і газаправоды, патрэбны пас супрацьпаветранай абароны Масквы, які ляжыць на нашай зямлі. Яны, я лічу, купяць іх у сп.Кебіча ў абмен на недатыкальнасць ягонай улады.

І хутка мы можам пачуць пра ягоныя планы "канфедэрацыі" з Расійскай Федэрацыяй з прадастаўленнем старэйшаму брату асаблівых правоў і прывілеяў на тэрыторыі Беларусі. Але беларуска-расійская мяжа будзе захавана, будуць свае грошы, паколькі, як сведчыць праельцынаўская прэса, расійскія ліберал-рэфарматары не згодзяцца на існаванне незалежнай крыніцы грашовай масы ў рублёвай зоне, якая будзе падтрымліваць інфляцыю. Для іх больш прымальна існаванне "камуністычнага бантустану", аддзеленага ад Расіі ўмоўнай мяжою, празрыстаю не толькі для чалавечых кантактаў, але і для інфармацыйнай і эканамічнай інвазіі. Беларусь пазбавіцца сваёй знешняй палітыкі, уступіць у вайсковы саюз, стане месцам адмывання крымінальных расійскіх грошай, увядзе расійска-беларускае двухмоўе.

Расплачвацца за ўсю, прабачце, бязглуздую палітыку нашых сённяшніх улад прыйдзецца браткам-беларусам. Ужо сёння ў расійскіх сродках масавай інфармацыі пачынаюць гучаць настальгічна-спачувальныя да беларускага народа матывы, якія паказваюць на перамену стратэгічнага курсу Масквы адносна Беларусі, яе згоду на камуністычную бантустанізацыю Беларусі. Зразумела, што кіруючы клан нашага бантустану вельмі хутка прасадзіць усе тыя невялікія сродкі (найперш у выглядзе паліўных і сыравінных рэсурсаў), якія Масква згодзіцца выдаткаваць сп. Кебічу на правядзенне апісанай аперацыі. Вылучыць вялікія сродкі яна зараз проста не ў стане. Таму хуткага разгортвання падзей па апісанаму сцэнарыю трэба чакаць не пазней вясны наступнага года. А яшчэ праз годдва наступіць стан поўнага жабрацтва нашага насельніцтва. І мы самі папросімся ў Расію, каб выратавацца ад свайго ўрада. Такім чынам, "трэці шлях" у хуткім часе выведзе нас на шлях поўнай нацыянальнай здрады.

Такім мне бачыцца выйсце з сённяшняга палітычнага тупіка, у які паставілі беларускі ўрад падзеі ў Маскве. У мяне не паварочваецца язык абвінавачваць ва ўзнікненні такой бязрадаснай перспектывы маскоўскіх "дзяржаўнікаў". Калі б я быў на іх месцы, мабыць, і я дзейнічаў бы аналагічным чынам.

Таму на нас, на Беларускі народны фронт, на ўсіх, хто разумее каштоўнасць незалежнасці, кладзецца найвялікшая адказнасць і галоўны цяжар барацьбы з ліберал-камуністычным кланам, які ўмацаваўся ў нашай рэспубліцы. Часу мала, прыкладна да сакавіка, каб цывілізаваным шляхам замяніць гэты ўрад. Як гэта зрабіць, давайце думаць разам.

**Юрый ХАДЫКА,**
**нам. старшыні Беларускага народнага фронта "Адраджэнне", прафесар.**

*Падтрымайце!*

## ...І будуць гучаць паланезы

**Міжнародны музычны фестываль-конкурс імя Агінскага адбудзецца 3—5 снежня ў Смаргоні Гродзенскай вобласці.**

Сюды прыедуць таленавітыя юныя музыкі з розных мясцін нашай Беларусі, а таксама госці з Літвы, Польшчы, Францыі, Італіі — тых краін, з якімі быў цесна звязаны жыццёвы і творчы лёс славутага кампазітара.

Гэты фестываль-конкурс будзе мець шырокі грамадскі рэзананс і стане яшчэ адным упэўненым і плённым крокам на шляху адраджэння нацыянальнай музычнай спадчыны і культуры, адукацыі і выхавання маладога пакалення, развіцця і ўмацавання культурных сувязей паміж народамі розных краін.

Каб арганізаваць і правесці важнае мерапрыемства на добрым узроўні, неабходны значныя грашовыя сродкі, якіх, на жаль, востра не хапае ў бюджэтах мясцовых гарраисаветаў.

Таму аргкамітэт фестывалю-конкурсу звяртаецца да кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, установ, калгасаў і саўгасаў, камерцыйных структур, прыватных прадпрымальнікаў нашай рэспублікі з просьбай аказаць пасільную фінансавую дапамогу ў арганізацыі і правядзенні гэтага мерапрыемства.

Грашовыя сродкі просім пералічваць на разліковы рахунак 142430 у смаргонскім аддзяленні Белаграпрамбанка.

Тэлефоны для даведак: (01592) 2-25-91, 2-29-21, 5-13-95.

**Аргкамітэт.**

*Крыўдна!*

## Ад чаго страхуе мінімальная зарплата

**Дакуль наш урад будзе здзекавацца са старых і бедных людзей? Няўжо не сорамна спадару В.Кебічу пісаць пра абарону беднага насельніцтва, дзеля якога ўводзіцца мінімальная зарплата 20 тысяч рублёў?**

Ды паглядзіце вы на гэтую абарону расплюшчанымі вачыма! Раней была зарплата — мінімум 15 тысяч, дык цана на масла ж не "скакала" ў тры разы, а на мяса, цукар, адзенне, кватрплату? Мне гэтыя пяць тысяч, як костка ў горле. Што на іх купіш?

А трэба жыць і дажываць неяк гэтыя гады, на якія выпалі нам, старым, такія выпрабаванні. Дзе той рынак, дзе тое паляпшэнне, дзе той доўгаабяцаны рубель, які не таннеў бы пад выпрабаваннем часу? Падман, хлусня, спрэчкі, абяцанкі, бясконцыя гаворкі аб паляпшэнні становішча, а калі ж урад пачне дзейнічаць, а не прымаць пастановы, якія дзейнічаюць тыдзень або гадзіну?

**А.АЎРАМЕНКА.**
*г.Буда-Кашалёва.*

*Нам стала вядома*

## Амерыканскі сервіс на беларускіх авіялініях

**Як стала вядома БелаПАН, кампанія "Белавія" ўкараняе стандарты абслугоўвання, якія прымяняюцца "Амерыкэн Эрлайн".**

Напрыклад, метад рэзервавання і продажу авіябілетаў. За аснову ўзята сістэма "SABRE". Кампанія "Белавія" падключылася ўжо да гэтай сістэмы і тым самым увайшла ў міжнародную сетку сувязі. Створаны камунікацыйны цэнтр, наладжана тэрмінальнае абслугоўванне, адпрацоўваюцца тэхналогіі кіравання раскладам рэйсаў, тарыфамі і гэтак далей.

Магчымасці ў гэтай сістэмы каласальныя: пасажыр можа не толькі зарэзерваваць білеты на рэйсы многіх авіякампаній свету, але і забраніраваць месцы ў гасцініцах, заказаць таксі.

**Ірына СЯРОГІНА.**

## Стаўкі павышаюцца

**Як паведамілі ў службе інфармацыі Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь, з 1 снежня гэтага года ўстанаўліваюцца новыя стаўкі па ўкладах.**

У прыватнасці, асобы, якія маюць тэрміновыя ўклады, будуць атрымліваць да 250 працэнтаў гадавых. 270 працэнтаў атрымаюць удзельнікі накапляльных укладаў. У тры разы ўзрастуць стаўкі мэтавых укладаў на дзяцей. Акрамя гэтага, Ашчадны банк паведамляе, што з 1 студзеня будучага года стаўкі па ўкладах да запатрабавання павысяцца да 60 працэнтаў гадавых.

**Белінфарм.**

*Накануне события*

## Игрушки, продукты и... девушки

**С 30 ноября по 3 декабря во Дворце искусства в Минске пройдет предрождественская ярмарка.**

Минчане и гости столицы смогут там приобрести елочные украшения, игрушки, предметы интерьера, одежду и обувь, косметику, продукты для праздничного стола, посуду.

Эту продукцию представят белорусские, украинские и российские фирмы, а также представительства фирм Италии и США.

Во время ярмарки будет проходить республиканский конкурс "Мисс модель Беларусь-93".

Проводит ярмарку выставочная компания "Экспосервис".

**Виктор ХОРОШКО.**

*Криминал*

## Потрошители светофоров

**Могилев постигло настоящее нашествие "потрошителей" светофоров: только в нынешнем году злоумышленниками поломано и разграблено 16 автоматических регулировщиков движения.**

Дело в том, что в автоматике светофоров находятся детали, из которых "ушлый" спец в состоянии добыть свыше 20 граммов золота и 50 граммов серебра.

Специализированный монтажно-эксплуатационный участок ГАИ — на пределе своих возможностей, удалось восстановить только семь светофоров. Возвращение к "жизни" остальных обойдется областному центру в 10 миллионов российских рублей, ведь украденные детали в республике не производятся.

**Борис МИХЕЕВ,**
**БелаПАН.**

## Кто прикроется тентом?

**Как сообщил корреспондент РИДа, в одну из темных ноябрьских ночей со склада совместного предприятия "Т", расположенного на территории опытно-механического завода в Смолевичах, совершена кража 900 квадратных метров тентовой ткани на сумму 16 миллионов рублей.**

Кто-то решил наладить свое производство палаток?

**Сергей СМИРНОВ.**

